ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

# 3

ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ**




ЛЯ ПАДНОЖЖА КАСКАДНЫХ ГОР...

СЯРОД МАЙГО НАРОДА... НУ, ТЫХ, ХТО БЫЎ МАІМ НАРОДАМ, І ТОЛЬКІ З БОКУ МАЦІ... ПЕРШЫЯ ВЫЯЎЛЕННІ РАМАНТЫЧНЫХ ПАЧУЦЦЯЎ ЗВЫЧАЙНА З'ЯЎЛЯЮЦЦА, КАЛІ МЫ СУСТРАКАЕМ ТАГО, ХТО ПА НЕЙКАЙ ПРЫЧЫНЕ, ПРОСТА **ПАХНЕ** ДЛЯ НАС ПРАВІЛЬНА... ХТО ВЫЗНАЧАЕЦЦА АД УСІХ ІНШЫХ.

АДНА З ПРЫЧЫН, ПА ЯКОЙ ТЫ **ПЕРАЖЫЛА** НАШУ ПЕРШУЮ СУСТРЭЧУ, ГЭТА ТОЕ, ШТО ТВОЙ ПАХ ЗДАЎСЯ МНЕ НЕЧАКАНА ПРЫЕМНЫМ.

ТЫ КПІШ З МЯНЕ? Я ТАДЫ БЫЛА **БРУДНАЯ**, ПАСЛЯ ТЫДНЯЎ ЎЦЁКАЎ АД ЛЕГІЁНАЎ ВОРАГА, А ПОТЫМ ТРЫ ДНІ Ў АДНЫМ З ЯГО КАРАВАНАЎ ПАЛОННЫХ. Я БЫЛА ПАКРЫТА БРУДАМ І НЯ БАЧЫЛА ВАННАЙ ЦІ ФЛАКОН **ДУХОЎ** УЖО...

І ЎСЁ Ж.

АЛЕ МЯНЕ ТАДЫ НЕ ЦІКАВІЛІ ЧАЛАВЕЧЫЯ ДЗЯЎЧЫНЫ. МНЕ СПАТРЭБІЛАСЯ САМОМУ ПРАЖЫЦЬ У ЧАЛАВЕЧАЙ СКУРЫ НЕКАЛЬКІ **СТАГОДДЗЯЎ**, КАБ У МЯНЕ З'ЯВІЛІСЯ ПАЧУЦЦІ.

ЗНАЧЫЦЬ, Я ТВОЙ ПЕРШЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ З НАБЫТЫМ ГУСТАМ?

НЕ ЗУСІМ.

# Дуэль

Гісторыя пра каханне



Частка трэцяя

Сцэнар: **Біл Уілінгхэм**
Аловак: **Марк Букінгем**
Туш: **Сціў Лэйалоа**
Лэтэрынг: **Тод Кляйн**

Колер і сепарыраванне: **Даніэль Возо**
Вокладка: **Джэймс Джын**
Ас. рэдактара: **Марыя Хохнэр**
Рэдактар: **Шэлі Бонд**

Паданні створаны **Б. Уілінгхэмам**
Пераклад на беларускую: **Артур Барадачоў**
Афармленне: **Сяргей Козыраў**

ТЫ ЖАНЧЫНА, ЯКУЮ Я **НЕ МАГУ** ІГНАРАВАЦЬ.

ШТО **ГЭТА** ЗНАЧЫЦЬ? ГУЧЫЦЬ ТРОХІ ЗНЯВАЖЛІВА.

ПАКУЛЬ Я ЖЫЎ У ГОРАДЗЕ, МНЕ ДАВОДЗІЛАСЯ ПАЛІЦЬ ЯК ЦЫРКАВОЙ МАЛПЕ, ПРОСТА КАБ **ПРЫТУПІЦЬ** МАЕ ПАЧУЦЦІ НАСТОЛЬКІ, КАБ СПРАЎЛЯЦЦА З ПЕРАГРУЖВАННЕМ МАСАЙ ІНФАРМАЦЫІ.

Я ЗАЎВАЖЫЛА.

І НАВАТ З ГЭТЫМ МНЕ ДАВОДЗІЛАСЯ ШМАТ СТАРАЦЦА, КАБ У ДУМКАХ АДФІЛЬТРАВАЦЬ **МІЛЬЁНЫ** ДАКУЧЛІВЫХ ГУКАЎ І ПАХАЎ... КОЖНУЮ МАШЫНУ, ЯКАЯ ВЫКІДВАЕ ВЫХЛАПНЫЯ ГАЗЫ, **КОЖНАГА** ЧАЛАВЕКА, СА СВАІМІ ПРЫРОДНЫМІ ПАХАМІ, А Ў ПРЫДАЧУ З РОЗНЫМІ АДЭКАЛОНАМІ І ІНШЫМІ ДУХАМІ, ЯКІМІ ЯНЫ СЯБЕ АКРАПЛЯЮЦЬ.

**КОЖНЫ** КАВАЛАК ЕЖЫ, ПАДАДЗЕНЫ Ў ДВАЦЦАЦІ ТЫСЯЧАХ ДАМАХ І РЭСТАРАНАХ І ЎСЁ СМЕЦЦЕ, ЯКОЕ ЯНЫ РОБЯЦЬ.

Я Б ЗВАР'ЯЦЕЎ, КАЛІ Б НЯ ЗМОГ БЛАКАВАЦЬ УСЁ ГЭТА.

І ЯК ГЭТА ЗЛУЧАНА СА МНОЙ, БОЗЛІ?

ТЫ І ТОЛЬКІ ТЫ МЕНАВІТА ТАЯ, КАГО Я НЕ МАГУ БЛАКАВАЦЬ, НЯ МАЕ ЗНАЧЭННЯ НАКОЛЬКІ МОЦНА Я СПРАБУЮ... І ПАВЕР МНЕ, Я **СПРАБАВАЎ**.



Я ВЕДАЮ, ДЗЕ ТЫ, КОЖНУЮ СЕКУНДУ КОЖНАГА ДНЯ. Я ВЕДАЮ ДОБРЫЯ ЦІ ДРЭННЫЯ СНЫ СНЯЦЦА ТАБЕ.

Я ВЕДАЮ, ЯКІ Ў ЦЯБЕ **НАСТРОЙ**, ДЗЯКУЮЧЫ ДРАБНЮТКІМ ЗМЕНАМ У ТВАІМ ПРЫРОДНЫМ ПАХУ, НЕЗАЛЕЖНА АД ТАГО, КОЛЬКІ ТЫ МЫЕШСЯ...

...ЦІ ЯКІЯ ШТУЧНЫЯ ПАХІ ТЫ ВЫРАШАЕШ НАНОСІЦЬ.

Я ВЕДАЮ, КАЛІ ТЫ ШЧАСЛІВАЯ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА ВЕЛЬМІ РЭДКА, КАЛІ ТЫ СУМУЕШ І КАЛІ ТЫ АДЧУВАЕШ СЯБЕ **ДА РОСПАЧЫ** САМОТНАЙ... ШТО БЫВЫЕ ВЕЛЬМІ ЧАСТА.

ЛІЧУ, НАМ ТРЭБА ЗАРАЗ **СПЫНІЦЬ** РАЗМОВУ ПРА ГЭТА.

Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ **ЗАЙЗДРОСЦІШ** КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ ТАБЕ ДАВОДЗІЦЦА РАЗМАЎЛЯЦЬ З ПРЫГАЖУНЯЙ, ТАМУ ШТО ЯЕ ШЛЮБ ПАСПЯХОВЫ, УЛІЧВАЮЧЫ ЎСЕ ЧЫННІКІ... НАСТОЛЬКІ **АДДАНЫ** ЯЕ ЗВЕР.

ПРАШУ, КАЛІ ЛАСКА

І ТЫ АДЧУВАЕШ СЯБЕ ВІНАВАТАЙ ЗА НЕПРЫЯЗНАСЦЬ ДА ЯЕ ШЧАСЦЯ, І ТОЕ, ЯК ГЭТА ВЫМУШАЕ ЦЯБЕ ЗРЫВАЦЦА НА ЯЕ, НАВАТ КАЛІ ТЫ ЗЛУЕШСЯ І НЕ НА ЯЕ.

СПЫНІСЯ. ГЭТА... ГЭТА ВЕЛЬМІ **ВУСЦІШНА...** БЫЦЦАМ ТЫ САЧЫЎ ЗА МНОЙ УСЕ ГЭТЫЯ ГАДЫ.

Я Б СПЫНІЎСЯ, КАЛІ Б МОГ.

УСПОМНІ, У ПЕРШЫЯ ГАДЫ ВЫГНАННЯ Я СПРАБАВАЎ ЖЫЦЬ АСОБНА АД ЦЯБЕ І ІНШЫХ КАЗАЧНЫХ. АЛЕ ТЫ **НАСТАЯЛА** НА ТЫМ, КАБ Я ПРЫЙШОЎ У НОВЫ СВЕТ І ДАЛУЧЫЎСЯ ДА ТВАЙГО ВЯЛІКАГА ЭКСПЕРЫМЕНТУ.

УСЁ Ж...

ТАБЕ ТРЭБА НАВУЧЫЦЦА НЕ ЗАДАВАЦЬ ПЫТАННІ, АДКАЗЫ НА ЯКІЯ ТЫ НЕ ЖАДАЕШ СЛУХАЦЬ.









НЕ СПРАБУЙ ПАКІНУЦЬ ГЭТЫ ПАКОЙ, ЦІ Я ПРАТЫКНУ ЦЯБЕ НАСКРОЗЬ. НЕ СПРАБУЙ ВЫХАПІЦЬ ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ СХАВАНУЮ ГАРМАТУ ЦІ ІНШУЮ ЗБРОЮ, ЯКАЯ ДАСЦЬ ТАБЕ ПЕРАВАГУ, ЦІ Я ПРАТЫКНУ ЦЯБЕ НАСКРОЗЬ.

ХОПІЦЬ КАЗАЦЬ ГЭТА!

ТВОЙ АДЗІНЫ ШАНЦ **ПЕРАЖЫЦЬ** НАСТУПНЫЯ НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН – ГЭТА ЎЗЯЦЬ МЕЧ І **ЗАБІЦЬ** МЯНЕ, ТАМУ ШТО Я **ЯКРАЗ** МАЮ НАМЕР ЗАБІЦЬ **ЦЯБЕ**.

АЛЕ **ЧАМУ**? ШТО Я **ЗРАБІЎ**?

ЁСЦЬ СТОЛЬКІ **МНОСТВАЎ** ВЫДАТНЫХ ПРЫЧЫН СПЫНІЦЬ ТВАЁ МІЗЭРНАЕ ІСНАВАННЕ, ЦЯЖКА **ВЫБІРАЦЬ**.

АЛЕ, УЛІЧВАЮЧЫ ЎСЁ АСТАТНЯЕ, Я ЗБІРАЮСЯ ЗАБІЦЬ ЦЯБЕ Ў ЯКАСЦІ ПАСЛУГІ ДЛЯ БЕЛЫ. Я ТАК ДРЭННА АБЫХОДЗІЎСЯ З ЁЙ НА ПРАЦЯГУ ЎСІХ ГЭТЫХ ГАДОЎ, ПРЫЙШОЎ ЧАС ЗРАБІЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ, КАБ ЗАГЛАДЗІЦЬ ВІНУ.

ЗАБІЦЬ **МЯНЕ**? І ШТО ГЭТА **ДАСЦЬ**? Я НІКОЛІ НІЧОГА **ЁЙ** НЕ РАБІЎ!

НЕ ПРЫКІДВАЙСЯ. Я ПРАГЛЯДЗЕЎ ТВОЙ **ДЗЁННІК**... НУ, НЕ АДКРЫТА, МОЙ ШПІЁН ПАВЕДАМІЎ МНЕ. Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ ПЛАНУЕШ ЗАБІЦЬ **БОЗЛІ**.

І ПА ПРЫЧЫНАХ, ЯКІЯ НЕ ПАДДАЮЦЦА РАЗУМЕННЮ, ЗДАЕЦЦА, БЕЛЕ ПАДАБАЕЦЦА ШАЛУДЗІВЫ ЗВЕР... ЧОРТ, ДЫ ЯНА МОЖА І САПРАЎДЫ ЗАКАХАЛАСЯ Ў ЯГО.

АЛЕ?..

О, НЕ СУДЗІ ПА ТЫМ, ЯК ЯНА **АБЫХОДЗІЦЦА** З ІМ. ЯНА БЫЛА ТАК БЯЗЛІТАСНА **ЗДРАДЖАНА** КОЖНЫМ, КАГО ЯНА КАЛІСЬЦІ КАХАЛА, ШТО НЯ МОЖА НЕ ЗРЫВАЦЦА І АГРЫЗАЦЦА НА НОВАЕ КАХАННЕ.

УСПОМНІ, Я Ж ТАКСАМА ПРЫМАЎ УДЗЕЛ У ЯКАСЦІ ПРЫМАЮЧАГА БОКУ ЯЕ ЛЮБОЎНЫХ ПАЧУЦЦЯЎ. ГЭТА ПАДОБНА НА ПАРТЫЮ Ў НАЖАВЫМ БОЮ.

Я БЫЎ **ЗУСІМ** НЯ ГОРШАЙ ПАРТЫЯЙ... ТЫ Б БАЧЫЎ ЯЕ **МАЧАХУ**. АЛЕ Ж МАЁ ЗДРАДНІЦТВА, ЗДАЕЦЦА, БЫЛО ПРАСЛАВУТАЙ **АПОШНЯЙ КРОПЛЯЙ**. ГЭТА НЯ ЧАСТА **ЗАЎВАЖНА**, АЛЕ Я **ШКАДУЮ** ПРА ГЭТА.

АЛЕ ЯКОЙ БЫ НІ БЫЛА ПРЫЧЫНА, ЯНА **ЖАДАЕ** СТАРОГА ПСА, ТАКІМ ЧЫНАМ, НАВАТ КАЛІ Я **АСАБІСТА** ЗНАХОДЖУ ЯГО АГІДНЫМ, Я НЕ МАГУ ДАЗВОЛІЦЬ ТАБЕ ЗАБІЦЬ ЯГО.

З ЯКОГА ГЭТА ЧАСУ **НАХАБНЫ** АШУКАНЕЦ ЯК ТЫ ЗНЯНАЦКУ ВЫРАШАЕ ДЗЕЙНІЧАЦЬ ТАК ВЫСАКАРОДНА? ЯК ТЫ НЕ ЎДАВІЎСЯ АД ТАКОЙ КРЫВАДУШНАСЦІ?

ГЛЯДЗІ НА ГЭТА ТАК: З КІМСЬЦІ ЯК Я ВЫСАКАРОДНЫЯ ПАРЫВЫ АДБЫВАЮЦЦА НАСТОЛЬКІ РЭДКА, ШТО Я НАЎРАД ЗМАГУ ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ ПРАІГНАРАВАЦЬ ІХ, КАЛІ ЯНЫ ЎСЁ Ж АДБЫВАЮЦЦА.



А ЦЯПЕР, ЛІЧУ, ТЫ ЖАДАЕШ, КАБ Я ГАВАРЫЎ, ПРОСТА КАБ ПАЦЯГНУЦЬ ЧАС. БЯРЫ ЗБРОЮ, СІНЕБАРОД, І ДАВАЙ ПРЫСТУПІМ ДА НАШАЙ СУМНАЙ **СПРАВЫ**.

ДОБРА! Я ЗАКАЛЮ ЦЯБЕ, КАЛІ ТЫ **НАСТОЙВАЕШ**!

НАСТОЙВАЮ.

ПАМЯТАЕШ, ЯК **ЛЁГКА** Я ПАБІЎ ЦЯБЕ Ў НАШЫМ АПОШНІМ ФЕХТАВАЛЬНЫМ РАЎНДЗЕ?

ВЫДАТНА. АЛЕ ДАВАЙ ПАГЛЯДЗІМ, ЯК У ГЭТЫ РАЗ ВЫЯВІЦЦА РОЗНІЦА, ШТО ГЭТА САПРАЎДНЫЯ КЛІНКІ І САПРАЎДНАЯ НЕБЯСПЕКА?

ТАДЫ АБАРАНЯЙСЯ!

Я СТАМІЛАСЯ, БОЗЛІ. МАЕ НОГІ ТАГО І ГЛЯДЗІ АДМОВЯЦЬ.

КАЛІ ТЫ ПЕРАТВАРЫШСЯ НАЗАД У ВАЎКА, Я Б МАГЛА ЗНОЎ ПАЕХАЦЬ НА ТАБЕ І МЫ Б ПАКРЫЛІ БОЛЬШ АДЛЕГЛАСЦІ.

ХУТКА, АЛЕ ЯШЧЭ НЕ.

ПАСПРАБУЙ ПРАТРЫМАЦЦА ЯШЧЭ **ТРОХІ**. МЫ НЕ ЖАДАЕМ ПАЙСЦІ ЗУСІМ ДАЛЁКА АД НАШАГА ПЕРАСЛЕДНІКА.

ЧАМУ НЕ? ХІБА НЯ Ў ГЭТЫМ **СЭНС** ТАГО, КАБ ЎЦЯЧЫ?

НЕ ЗАЎСЁДЫ, КАЛІ МЫ ПРОСТА ЎЦЯЧОМ, МЫ, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, ЗМОЖАМ СХАВАЦЦА Ў **ГЭТЫ** РАЗ. АЛЕ РЫЗЫКУЮЧЫ ТЫМ, ШТО Ў НАСТУПНЫ РАЗ ЯНА БУДЗЕ ВЫБІРАЦЬ, КАЛІ І ДЗЕ ВЫЦЯЦЬ Ў **НАСТУПНЫ** РАЗ.

ЛЕПШ ЗНАЙСЦІ ДОБРАЕ МЕСЦА ТУТ І СКОНЧЫЦЬ З ГЭТЫМ.

«ЯНА»?

ТЫ СКАЗАЎ «ЯНА»?

ТАК, Я НАРЭШЦЕ ЎЛАВІЎ ДУШОК НАШАГА ВОРАГА. ЯНА САПРАЎДЫ ЖАНЧЫНА, І МАГЧЫМА З КАЗАЧНЫХ. **ЧУЕШ** ГЭТЫ ГУК... СЛАБЫ, АЛЕ НАДЫХОДНЫ?

БЕНЗАПІЛА? ТЫ КАЗАЎ, ШТО Ў ГЭТЫХ МЯСЦАХ ЁСЦЬ ЛЕСАПІЛЬНІ.



ПАДОБНЫ ГУК, АЛЕ ГЭТА **НЕ** БЕНЗАПІЛА. ЛІЧУ, ШТО ГЭТА МАТАЦЫКЛ.

ЯНА НАБЛІЖАЕЦЦА, АЛЕ, ЗДАЕЦЦА, У НАС ТУТ,НАРЭШЦЕ, ЯКРАЗ, ТОЕ МЕСЦА, КАБ ДОБРА ЯЕ ПАВІТАЦЬ.

ТЫ Ж ВЕДАЕШ, ХТО ГЭТА, ТАК? ГЭТА ПАВІННА БЫЦЬ ЗЛАТАВАЛОСКА!

Я ТАК І ЛІЧУ. КАЛІ ТОЛЬКІ ТЫ НЯ ВЕДАЕШ ПРА **ІНШЫХ** ЗБЕГЛЫХ КАЗАЧНЫХ ЖАНОЧАГА ПОЛУ, ЗБРОЕВЫХ ФАНАТКАХ З МАНІЯЙ ДА ЗАБОЙСТВА І З АСАБЛІВЫМ ПУНКЦІКАМ СУПРАЦЬ ЦЯБЕ?

ПАГЛЯДЗІ, НАКОЛЬКІ ДАЛЁКА ТЫ ЗМОЖАШ ЗАПАЎЗЦІ ПАД ГЭТЫЯ КАМЯНІ. ДЛЯ НАСТУПНАЙ ЧАСТКІ ТАБЕ ПАТРЭБНА БЯСПЕЧНАЕ СХОВІШЧА.

ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ЗРАБІЦЬ?

СКАРЫСТАЮСЯ ТАЛЕНТАМ, ЯКІ ДАСТАЎСЯ МНЕ ПА СЯМЕЙНАЙ ЛІНІІ АД ТАТЫ... ТОЙ, ЯКІМ МНЕ НЕ ДАВОДЗІЛАСЯ КАРЫСТАЦЦА ЎЖО ВЕЛЬМІ ДОЎГА.

ЧАС ДЛЯ ПОРЦЫІ СТАРОГА ДОБРАГА ДУНУЦЬ – ПЛЮНУЦЬ.




ОУ!


ЦЯПЕР ТЫ МОЙ, МЁРТВЫ ПРЫНЦ.
НІЯКАЙ ЛІТАСЦІ!
І НЯ ТРЭБА!




BUSINESS OFFICE
S. WHITE
RIIIING
RIIING
RIIIING


RIING
RIIING
RIIIING
RIIING
?
SNOW WHITE
DIRECTOR OF OPERATIONS
АЛЁ?
КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ.


НЕ, БЕЛАСНЕЖКІ НЯМА, ЯНА НЕ Ў ГОРАДЗЕ.


НЕ, БОЗЛІ ТАКСАМА НЯМА.


НЕ, КАРОЛЬ КОЛЬ **НІКОЛІ** СЮДЫ НЕ СПУСКАЕЦЦА.


НЕ, ПАСТУШОК МОЦНА СПІЦЬ.


ХТО ЗА ГАЛОЎНАГА?


НАПЭЎНА Я.
ЗАРАЗ Я КІРУЮ ФЭЙБЛТАЎНАМ.


ЧАМУ **НЕ**? Я **ДОБРАЯ** МАЛПА.


Я ЦЯПЕР УЖО **АМАЛЬ** НЕ КІДАЮСЯ СВАІМ ЛАЙНОМ.







БОЗЛІ?

КУДЫ ГЭТА ТЫ ПАЙШОЎ?


НАМ ТРЭ-
БА **СПЫНІЦЬ**
ГЭТА!
УЖО ХУТКА.
НЕ, ТЫ
НЕ **РАЗУМЕЕШ**!


ТЫ НЯ **ЗМОЖАШ**
ТАКІМ ЧЫНАМ ВЫ-
РАТАВАЦЬ БОЗЛІ!
Я ЎЖО...
А МОЖАШ
ЗАБІЦЬ ЗЯПУ,
**КАЛІ ЛАСКА**?
ПАСПРАБУЙ
ПАМЕРЦІ ХОЦЬ
З КРОПЛЯЙ
**ГОДНАСЦІ**.




БОЗЛІ?
СКОНЧЫ-
ЛАСЯ?


ТАК, ЦЯПЕР
МОЖАШ
ВЫЙСЦІ.
Я
СКОНЧЫЎ.
ГЭТА
БЫЛО...
ЯК ТЫ...


ЯК Я ЎЖО ЗГАДВАЎ,
ВІНАВАЦЬ МАЙГО
БАЦЬКУ.
ДУМАЮ, Я НІКОЛІ РА-
НЕЙ НЕ ЗГАДВАЎ, ШТО
Я ДЗІЦЯ **ЗМЕШАНАГА**
**ШЛЮБУ**.


МОЙ ТАТА БЫЎ
**ПАЎНОЧНЫМ**
ВЕТРАМ...
...І ТОЕ, ЯК ЁН СУСТРЭЎ
МАЮ МАЦІ І ЯК У ЯГО
УЗГАРЭЛІСЯ ПАЧУЦЦІ
ДА ЯЕ... НУ, ГЭТА
ДОЎГАЯ І ЦІКАВАЯ
ГІСТОРЫЯ НА
ІНШЫ РАЗ.


ЯК І ЎСЕ АСТАТНІЯ Я ЧУЛА ГІСТОРЫЮ ПРА ТРОХ ПАРАСЯТ, АЛЕ Я НІКОЛІ НЕ ЎЯЎЛЯЛА, ШТО ТЫ **САПРАЎДЫ** МОЖАШ ЗРАБІЦЬ.


ТАДЫ Я БЫЎ ЯШЧЭ ПАДРАСТАЮЧЫМ **ШЧАНЮКОМ**. СУМНЯВАЮСЯ, ШТО НАВАТ ЦАГЕЛЬНАЯ ХАТКА ЗМАГЛА Б ЗАРАЗ УСТАЯЦЬ.
ТЫ ДАСТАЎ ЯЕ?
ЗЛАТАВАЛОСКА **МЁРТВАЯ**?


НА ЖАЛЬ НЕ, АЛЕ НЕ ТАМУ, ШТО НЕДАСТАТКОВА СПРАБАВАЎ.
ЗАБІЦЬ ЯЕ ТАКІМ ЧЫНАМ БЫЛО НАЎРАД ЦІ МАГЧЫМА, ГЭТА І НЕ БЫЛО МАЁЙ ГАЛОЎНАЙ МЭТАЙ.


Я З ПОСПЕХАМ ВЫКАНАЎ ДЗВЕ РЭЧЫ, НА ЯКІЯ СПАДЗЯВАЎСЯ.
І ГЭТА...?


ПА-ПЕРШАЕ, Я СТВАРЫЎ СЛЕД, ЯКІ ЎКАЗВАЕ НА НАС. НАВАТ ІДЫЁТ ЯГО НЕ ПРАПУСЦІЦЬ. ЦЯПЕР У ЗЛАТАВАЛОСКІ НЕ ПАВІННА ЎЗНІКНУЦЬ ПРАБЛЕМ З НАХОДЖАННЕМ НАС.




І ШТО БОЛЬШ ВАРТА, Я ПАКАЗАЎ МЯСЦОВЫМ ВЯТРАМ, ХТО ТУТ **ГАЛОЎНЫ**.
ЦЯПЕР ЯНЫ ПАДПАРАДКОЎВАЮЦЦА МНЕ... ПРЫНАМСІ НЕЙКІ ЧАС.


ДАСТАТКОВА ДЛЯ ТАГО, КАБ ЯНЫ ДУЛІ ТАК, КАБ ЗАЎСЁДЫ ТРЫМАЦЬ ЗЛАТАВАЛОСКУ З ПАДВЕТРАНАГА БОКУ АД НАС... ДАНОСЯЧЫ ЯЕ ПАХ ДА МЯНЕ, НЕЗАЛЕЖНА АД ТАГО, ПА ЯКОЙ ДАРОЗЕ ЯНА ПОЙДЗЕ.
ЦЯПЕР КОЖНУЮ **СЕКУНДУ** Я ВЕДАЮ, ДЗЕ ЯНА, АЖ ДА МОМАНТУ, КАЛІ ЯНА З'ЯВІЦЦА.


ЗНАЧЫЦЬ, У ГЭТЫ РАЗ МЫ ЎЧЫНІМ ЁЙ **ПАСТКУ**?
УГУ.


ЯКАЯ **РОЛЯ** Ў МЯНЕ?
ХАВАЦЦА, СЯДЗЕЦЬ ЦІХА І НЯ БЛЫТАЦЦА Ў МЯНЕ ПАД **НАГАМІ...**
КАЛІ ЎСЁ ПОЙДЗЕ ПА **ПЛАНЕ**.


І ПРОСТА НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК, ДАВАЙ АБМЯРКУЕМ, ШТО ТАБЕ ТРЭБА ПАДРЫХТАВАЦЬ, КАЛІ ЎСЁ ПОЙДЗЕ **НЯ ТАК**, ЯК Я ЧАКАЮ.


УСЁ!
Я ЗДАЮСЯ!
ТЫ ПЕРАМОГ!
ТЫ НЯ СЛУХАЎ.
АЛЕ Я МАЛЮ ЦЯБЕ!
ВАРЫЯНТА ЗДАЦЦА НЕ БЫЛО!
ААДНН!


ВЫРАДАК! ТЫ ЗАБІЎ МЯНЕ!
ЦІ БАЧЫШ... Я ЎЖО ЗАБІЎ ВАЎКА, І ТВАЮ ПРЫНЦЭСУ ТАКСАМА.
УСЁ ЎЖО ЗРОБЛЕНА.


АЛЕ Я ТАКСАМА ПЕРАМОГ... ПАСВАЙМУ.
Я СПРАБАВАЎ СКАЗАЦЬ ТАБЕ, АЛЕ ТЫ НЯ СЛУХАЎ.






ВОХ ТЫ Ж!

Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ ПОБАЧ.
МОЖАШ ПАКАЗАЦЦА.


ЯК ПАЖА-
ДАЕШ.
ДАЛЕЙ:
УЦЯЧЫ З ЗАБОЙСТВАМ
22